**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.56, 19.08, 12.12;
Віцебск — 6.45, 18.58, 12.13;
Магілёў — 6.45, 18,57, 12.12;
Гомель — 6.44, 18.52, 12.08;
Гродна — 7.13, 19.21, 12.08;
Брэст — 7.18, 19.24, 12.12.

**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра
19 верасня

**ІМЯНІНЫ:**
Паўла, Андрэя, Клімента, Пульхерыі, Пятра



# ЗВЯЗДА

23 ВЕРАСНЯ 1992 г.
серада № 191 (21969)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### Ці чакаюць беларусаў-вайскоўцаў на радзіме?

**На імя сустаршыні Нацыянал-дэмакратычнай партыі Беларусі Віктара Навуменкі прыйшоў ліст з Амурскай вобласці ад землякоў-вайскоўцаў, у якім, у прыватнасці, гаворыцца:**

«Як стала вядома, у вайсковыя часці Далёкаўсходняй ваеннай акругі паступіла дырэктыва начальніка штаба ДВА № 25/1292 ш ад 4.07.92 г., у якой, на падставе распараджэння ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны Расіі, устанаўліваецца тэрмін заканчэння адкамандзіравання ўсіх афіцэраў іншых нацыянальнасцей, якія пажадалі прадоўжыць службу ў сваіх краінах — да 1 верасня.

Але гэта дырэктыва датычыцца толькі тых, хто прывёз адносіны з дому (нам жа ў Беларусі Міністр абароны забараніў іх даваць).

А 4 жніўня атрымана паведамленне са штаба ДВА, згодна з якім адпраўляць будуць усіх, хто напісаў рапарты.

Мы хацелі б даведацца (а нас у палку каля 30 чалавек): гэта аднабаковы акт Расіі (дэпартацыя) ці ёсць дамоўленасць аб планавай замене (беларусаў на рускіх і наадварот) паміж Беларуссю і Расіяй?

Калі гэта дэпартацыя, то які будзе адказ Беларусі, або яна зноў дарує абразу свайму «вялікаму суседу»? Калі замена, то чаму адкамандзіроўваюць у распараджэнне міністра абароны, а не ў канкрэтную часць? Куды, на які адрас адпраўляць кантэйнер і куды везці сям'ю, бо ні ў кога кватэр у Беларусі няма?

Наогул, чакаюць нас дома ці трэба везці з сабою палаткі?

З павагай
капітан **СПАТКАЙ**».

ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ:

### «ЗВЯЗДА» НЕ ЛІДЭР, АДНАК...

Падпісная кампанія на Беларусі яшчэ працягваецца, але папярэднія вынікі з улікам ведамаснай падпіскі, аказваецца, падвесці ўжо можна. З кампетэнтных крыніц мы атрымалі даныя па некаторых рэспубліканскіх газетах, якія выглядаюць наступным чынам:

«Звязда» — 16.935 экземпляраў

«Народная газета»—30.250 экземпляраў

«Советская Белоруссия»—38.385 экземпляраў

«Знамя юности» — 4.853 экземпляры

«7 дней» — 11.101 экземпляр.

Вынікі падпісной кампаніі па «Белорусской ниве», «Рэспубліцы», «Чырвонай змене» і некаторых іншых выданнях яшчэ апрацоўваюцца, таму іх няма ў гэтым спісе. На першы погляд здаецца, што «Звязда» не лідзіруе па колькасці падпісчыкаў, аднак гэта не зусім так. Мяркуйце самі. Калі ў параўнанні з цяперашнім вераснёўскім тыражом у «Советской Белоруссии» (686.094 экземпляры) папярэдні тыраж будучага года скараціўся амаль у 18 разоў, у «Народнай газеты» (сёння 400.865 падпісчыкаў) — амаль у 13 разоў, у «7 дней» (зараз налічвае 160 тысяч падпісчыкаў) — больш чым у 14 разоў, у «Знамени юности» (сёння выходзіць тыражом 105 тысяч экземпляраў) — амаль у 21 раз, то ў «Звязды» тыраж зменшыўся ўсяго ў 4,5 раза!

Але вы можаце зрабіць так, каб апошняя лічба была яшчэ меншай. Дзеля гэтага трэба не многа — проста падпісацца на «Звязду».

**Кар. «Звязды».**

## Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб узнагароджанні ПАНЧАНКІ П. Е. і СКУРКО Я. І. (Максіма Танка) медалём Францыска Скарыны

За вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа ўзнагародзіць медалём Францыска Скарыны:

ПАНЧАНКУ Пімена Емяльянавіча—пісьменніка.

СКУРКО Яўгена Іванавіча (Максіма Танка)—пісьменніка.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

21 верасня 1992 г.
г. Мінск.

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»

**РУСЛАН ХАСБУЛАТАЎ, Старшыня ВС Расіі:**

## «Асамблеі СНД быць»

**— Руслан Імранавіч, ці адаб'ецца павышэнне цэн на нафту на пастаўках Расіі гэтага прадукту Беларусі і на яго кошце для нашай рэспублікі?**

— Беларусь для нас з'яўляецца адным з самых надзейных і важных партнёраў ва ўсіх галінах. Безумоўна, павышэнне цэн на нафту адаб'ецца і на пастаўках Беларусі. Але ні аб якім зніжэнні яе аб'ёмаў гаворкі не ідзе.

**— У Беларусі апазіцыяй вядзецца кампанія па роспуску парламента ў самы бліжэйшы час. Ці адбываюцца падобныя працэсы ў адносінах да расійскага парламента?**

— Я не скажу, што ўсіх задавальняе работа нашага парламента. У Расіі таксама ёсць сілы, якія выступаюць за роспуск існуючых органаў улады, але каб яны шырока падтрымліваліся народам, сказаць не магу.

**— Ваш прагноз існавання Міжпарламенцкай асамблеі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.**

— Садружнасці, як і Асамблеі, быць. Гэта адназначна. Ніводная рэспубліка цяпер не ў стане ў адзіночку выбірацца з усеагульнага крызісу, які ахапіў усе рэспублікі без выключэння. Больш таго, прапанова Украіны стварыць пастаянныя камісіі ў СНД, як бачыце, знайшла разуменне ў тых парламенцкіх дэлегацый, якія прысутнічалі ў Бішкеку.

**— А як жа адсутнасць самой Украіны на Асамблеі?**

— Я думаю, што гэта далёка не апошняе слова гэтай краіны і што разумны сэнс усё ж возьме верх і ў парламенце, і ў іншых органах улады Украіны.

**МІХАІЛ ЛОГІНАЎ, намеснік Старшыні ВС Кіргізіі:**

## «Без беларускай бульбы жыць не можам»

**— Міхаіл Ільіч, якія ў вас адносіны з Беларуссю?**

— Самыя блізкія. Вы ўжо напэўна бачылі, што ў нас працуюць вашы «БелАЗы», «МАЗы» і іншая беларуская тэхніка.

Насенную бульбу мы купляем толькі ў Беларусі. Дарэчы, дзякуючы апошняй у нас сёлета вельмі неблагі ўраджай. Шчыра кажучы, мы жыць не можам без беларускай бульбы. Мы ў сваю чаргу пастаўляем вам прэс-падборшчыкі для сена, агародніну, садавіну.

Што ж датычыць асабіста мяне, то я асабліва прывязаны да Беларусі. На беларускай зямлі пахаваны мой старэйшы брат. Гэта недзе каля Вязынкі Мінскай вобласці.

**— Амаль усе сярэднеазіяцкія краіны цяпер ахоплены міжнацыянальнымі спрэчкамі і канфліктамі. Кіргізія пакуль застаецца ў баку ад гэтай «кампаніі». Як вам гэта ўдаецца?**

— Па-першае, у Кіргізіі пражывае недзе каля сарака працэнтаў рускамоўнага насельніцтва. Па-другое, кіргізы спрадвеку вызначаліся не толькі сваёй працавітасцю, але і цярпімасцю да іншых народаў і нацыянальнасцей. Па-трэцяе, шмат што ў нацыянальнай палітыцы залежыць ад Прэзідэнта і парламента, ад таго, як яны самі ставяцца да нацыянальных пытанняў у сваёй рэспубліцы.

Я не магу сказаць, што ў Кіргізіі з апошнім літаральна ўсё добра. Ёсць асобныя выпадкі і зняважі, і непаразуменні на нацыянальнай глебе, але ўсе яны знаходзяць патрэбны рэзананс на самым высокім узроўні.

Нядаўна ў Кіргізію прыязджаў лідэр Чэчэнскай рэспублікі Джахар Дудаеў, які праводзіць палітыку ісламскага фундаменталізму. Канструктыўнай размовы ў нашага парламента з ім не атрымалася і, думаю, у бліжэйшай будучыні не атрымаецца.

Можна яшчэ доўга расказваць пра нацыянальную палітыку ў Кіргізіі. Скажу адно: пра ганенні ці нейкую дыскрымінацыю ў адносінах да рускамоўнага насельніцтва гаварыць не прыходзіцца.

**— Ці адчуваецца напружанасць на кіргізска-таджыкскай граніцы? І ўвогуле, наколькі небяспечнае для Кіргізіі развіццё падзей у суседняй рэспубліцы?**

— Граніцы ў поўным сэнсе гэтага слова не існуе пакуль ні з адной рэспублікай былога Саюза. Мы ўсё ж верым у аднаўленне і працяг былых добрасуседскіх сувязей. Таму і ўсяляк вітаем стварэнне Міжпарламенцкай асамблеі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Кіргізія, як і астатнія рэспублікі, пачынае будаваць рыначную эканоміку амаль на пустым месцы, дык чаму б нам не скарыстаць ужо назапашаны патэнцыял?

**Гутарыў
Аляксандр КОКТЫШ.**

### ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Каралеўства Нідэрландаў у Рэспубліцы Беларусь Сімейджнс дэ-Врайс ван Дусбург ян Вілэм 22 верасня ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу.

Сімейджнс дэ Врайс ван Дусбург ян Вілэм нарадзіўся 8 чэрвеня 1933 года ў Харлеме. Закончыў факультэт права Лейдэнскага ўніверсітэта.

Сваю знешнепалітычную дзейнасць ён пачаў у 1961 годзе, займаў пасады ў Капенгагене, Маскве, Вашынгтоне і Пекіне. З 1974 па 1976 год —саветнік Пасольства Нідэрландаў у Боне. З 1976 па 1980 год —саветнік Пасольства Нідэрландаў у Дубліне. З 1980 па 1986 год — паўнамоцны прадстаўнік у Лондане. З 1986 па 1988 год — Генеральны консул у Чыкага. З 1988 года па цяперашні час — пасол у Варшаве.

Жанаты.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

### КАЛІ ВЕРЫЦЬ АГЕНЦТВУ «РЭЙТАР»...

Агенцтва «Рэйтар» паведамляе аб тым, што дызельныя рухавікі для «Ікаруса» будуць цяпер вырабляцца ў Мінску. На думку заходніх спецыялістаў, па сваіх тэхнічных параметрах яны будуць значна лепшыя, чым венгерскія. Гэтымі ж рухавікамі будуць аснашчацца аўтобусы нямецкай фірмы «Неаплан», якія таксама будуць збірацца ў Мінску.

### І ЗАЗЗЯЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ АЛМАЗЫ

**На геалагічнай карце Беларусі з'явіліся першыя паметкі, якія сведчаць аб тым, што ў перспектыве ў рэспубліцы можна будзе пачаць прамысловую распрацоўку алмазаў. Будова зямной кары дапускае магчымасць таго, што ў яе нетрах могуць «нараджацца» гэтыя дзіўныя крышталі.**

**А пакуль вучоныя Інстытута геахіміі і геафізікі АН Рэспублікі Беларусь вядуць усебаковыя даследаванні глыбінных структур на тэрыторыі рэспублікі. У ходзе работ выяўлены так званыя кемберліты, якія ўтрымліваюць алмазныя жылы. Комплекснае вывучэнне на 60—70 працэнтаў пацвярджае іх ідэнтычнасць з сібірскімі.**

**Наперадзе ў вучоных — вялікая работа. Трэба правесці падрыхтоўку да экспедыцыйных даследаванняў, скамплектаваць неабходную апаратуру і пачаць пошукі ў патэнцыяльна алмазаносных Прыпяцкай і Полацкай зонах глыбінных разломаў.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. (БЕЛІНФАРМ).**

РАССЛЕДАВАННІ

### Віцебск—Гродна: там — паліва, тут—угнаенні. І ўсюды беззаконнасць

Напэўна чытачы памятаюць дзве карэспандэнцыі (3 і 12 верасня), прысвечаныя сумесным махінацыям Віцебскага аблвыканкома і рыжскай фірмы «Лідо» па незаконнаму рээкспарту расійскага дызпаліва ў Латвію? Дарэчы, поўным ходам ідзе расследаванне, якое ўчыніла Кантрольная палата Вярхоўнага Савета. Па маіх даных, пяцёра дэпутатаў падалі запыт на імя С. Шушкевіча. Ён датычыць адказнасці вінаватых асоб. Што вырашыць Старшыня — паглядзім. І паведамім.

Але, канешне, «віцебская справа» —толькі эпізод. Нашаму дасведчанаму чытачу гэта тлумачыць не трэба. Трэба толькі падкідваць свежыя факты. Безумоўна, яны ёсць, і аб іх мне паведамілі ў Кантрольнай палаце. Яна правярала, скажам так, некаторыя аспекты знешнеэканамічнай дзейнасці ў Гродзенскай вобласці. І выявіла вельмі цікавыя рэчы.

Паколькі паўнацэнная праверка яшчэ толькі рыхтуецца, пакуль можна гаварыць аб наступным. Нейкім чынам вытворча-камерцыйная фірма «Лютана» атрымала 5 ліцэнзій на вываз за межы рэспублікі алюмінію. А «асвячаў» усё гэта намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкома Кардаш. Формы здзелак былі розныя: ад бартэрных да грашовых.

Асабліва «прадукцыйна» працуе знешнеэканамічная асацыяцыя «Нёман». Тут вам і дызельнае паліва, і мінеральныя ўгнаенні, і каляровыя металы. Само сабой, з атрыманнем ліцэнзій «Нёман» не меў ніякага клопату. І кажуць, сляды зноў вядуць на рэспубліканскія вярхі. Ах, як прыкра. Але па-чалавечы зразумела.

Уласна, нічога б такога не было, калі б... Ну, вось глядзіце: сусветная цана на мінеральныя ўгнаенні —132—145 долараў за тону, а ў выніку бартэрнага абмену яна зніжалася да 70—80, бо мянялі ўгнаенні, скажам, на «Жыгулі» ці колы да іх. Я разумею, нехта не мог купіць «Жыгулі» дома — дарага. Але хто будзе вяртаць гэтую самую розніцу паміж сусветнай і наяўнай прадажнай цаной на ўгнаенні? Цікавае пытанне. Хацелася б знайсці на яго адказ. Ну хоць бы з дапамогай той жа Кантрольнай палаты. «Дзяржаўнае дрэва» яна пачала трэсці як быццам даволі грунтоўна.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## АСТРАНАМІЧНЫ КАЛЯНДАР

### СУСТРАКАЙЦЕ ВОСЕНЬ!

**Ужо прыйшла восень. Прывяло яе з сабой... Сонца. Як сцвярджаюць астролагі, яно ўступіла ў знак ШАЛЯЎ (толькі не трэба блытаць з невялікім сузор'ем Шалі, дзе, паводле разлікаў астраномаў, наша дзённае свяціла апынецца толькі 30 кастрычніка). Зараз жа яно, перамяшчаючыся па сузор'і Дзевы, перасекла экватар нябеснай сферы і працягвае свой шлях па яе паўднёвым паўшар'і. Тэарэтычна сёння на ўсім зямным шары дзень будзе роўны ночы. Вось чаму 23 верасня астраномы называюць днём асенняга раўнадзенства і лічаць яго пачаткам восені ў паўночным паўшар'і. А ў паўднёвым у гэты дзень пачынаецца вясна.**

**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ, астраном.**

### МЕНШ СТАЛІ ЕЗДЗІЦЬ І ЛЯТАЦЬ

МІНСК. Паводле даных Мінгарстатупраўлення, сярэднясутачны прабег гарадскога маршрутнага аўтобуса складае 262,5 кіламетра, што на 4,2 працэнта ніжэй, чым у студзені — жніўні 1991 года. Сярэдняя працягласць работы ў суткі — 12,2 гадзіны. За 8 месяцаў гэтага года мінскім метрапалітэнам перавезена 58 мільёнаў пасажыраў. У параўнанні з мінулым годам аб'ём перавозак скараціўся на 13 працэнтаў. Паветраным транспартам сталіцы Беларусі перавезена звыш 519 тысяч пасажыраў, што ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года менш на 49 працэнтаў. Галоўная прычына — тарыфы на паслугі розных ведаў транспарту, што павялічыліся ў шмат разоў.

### У ПРЭЗІДЫУМЕ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пад старшынствам Вячаслава Кебіча ў Доме ўрада адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі. Абмеркаваны наступныя пытанні: аб праекце мытнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, аб праекце Закона «Аб мытным тарыфе», аб праекце канцэпцыі знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь, аб рабоце Мінтранса. Прыняты адпаведныя пастановы.

На пасяджэнні заслуханы таксама даклад старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага «Аб фактах карупцыі і эканамічных злачынствах у Беларусі». Разгледжаны шэраг іншых актуальных праблем сацыяльна-эканамічнага жыцця.

У рабоце Прэзідыума прыняў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

Падрабязная справаздача аб пасяджэнні, а таксама пастанова ўрада «Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па абароне эканамічных інтарэсаў рэспублікі» будуць апублікаваны ў рэспубліканскім друку.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. (БЕЛІНФАРМ).**

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

## Зямля круглая, і ўсе дарогі вядуць да роднай хаты, альбо Спроба пагаварыць з землякамі

**Спадар Янка Запруднік — вядомы публіцыст, навуковец, паэт, грамадскі дзеяч, які шмат сіл аддаў аб'яднанню беларускай эміграцыі ў ЗША. Сваю доктарскую дысертацыю Янка Запруднік пісаў на тэму: «Палітычнае змаганне за Беларусь у дзяржаўных Думах Расіі...» Пасля абароны дысертацыі вучоны некалькі гадоў выкладаў гісторыю Расіі і Савецкага Саюза ў Квінскім каледжы як асістэнт прафесара. Доўгі час рэдагаваў газету «Беларус», удзельнічаў у выданні манаграфій і гадавікоў «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Адна з апошніх яго навуковых прац — кніга «Беларусь паміж Захадам і Усходам», якая хутка ўбачыць свет. У серыі манаграфій, прысвечаных рэспублікам былога СССР, што рыхтуецца ў Калумбійскім універсітэце, Янка Запруднік з'яўляецца аўтарам кнігі пра Беларусь.**

**Пражыўшы большую частку свайго жыцця ў эміграцыі, па палітычных матывах адлучаны ад Беларусі, Янка Запруднік, як вучоны і як грамадзянін, не пераставаў займацца беларушчынай. Летась ён упершыню пасля амаль пяцідзесяцігадовага адлучэння быў запрошаны ў Мінск на Міжнародны кангрэс беларусістаў. Сёлета вучоны ўжо двойчы наведаў Беларусь. У час гэтых візітаў Янка Запруднік меў некалькі публічных выступленняў — у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны і ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**Вашай увазе, шаноўныя чытачы, прапануем асобныя фрагменты з выступленняў нашага земляка.**

47 гадоў чакаў я такой нагоды пагаварыць з землякамі, і вось яна нарэшце здарылася. Мне было 17 гадоў, калі выехаў з Беларусі, мусіў, бо лічыўся «злачынцам» у ваччу партызан, якія забаранялі наведваць вышэйшую школу ў час нямецкай акупацыі. Я ж пайшоў туды, каб не забралі служыць у паліцыю. У прагімназіі, у гандлёвай школе ў Баранавічах займаўся. Я быў далёка ад бацькоў, бо сам з Міра. Тады, напрыканцы вайны, я зрабіў выбар — ехаць на Захад, таму што ведаў, што чакае мяне штрафная рота. З сённяшняй перспектывы — дык, можа, жыццё выратаваў тым учынкам. Ездзіў па цэлым свеце, але ж зямля круглая, і ўсе дарогі вядуць да роднай хаты — вярнуўся да сваіх вытокаў. Спадзяюся, што час не змарнаваў у эміграцыі. Я ваш, прадстаўнік беларусаў на Захадзе, беларусаў у Амерыцы.

Дзякуючы таму, што ў Беларусі змяніліся палітычныя абставіны, мы, беларускія эмігранты з усяго свету, маем магчымасць прыязджаць, выказваць свае меркаванні свабодна — яны, дарэчы, не абавязкова такія самыя, што існуюць тут. У вас таксама на месцы шмат спрэчак, палітычнай канфрантацыі. І тым не менш распачаўся працэс яднання беларусаў. Беларускі нацыянальны арганізм, які быў разлучаны, разарваны штучна — ідэалогіяй, цэнзурай, геаграфічным становішчам (вядома, што паміж беларусамі, скажам, Казахстана і беларусамі асноўнага мацерыка не існавала такой сувязі, якая павінна была б быць). Нас у далёкім замежжы заўсёды цікавіла жыццё суайчыннікаў у былым Саюзе. Але атрымаць праўдзівую інфармацыю было складана. Вашыя газеты любілі карыстаць статыстыку: колькі клубаў, школ, гурткоў і г. д. Але што стаяла за ўсімі гэтымі лічбамі? Так-сяк даходзілі весткі пра крытычнае становішча нацыянальнай культуры, пра заняпад мовы і свядомасці народа. Да ўсяго гэтага, калі да нас прыязджалі афіцыйныя дэлегацыі з БССР, людзі, як правіла, не маглі нават гаварыць на сваёй роднай мове. Сувязі ў нас ніякай не было доўгія гады. Сёння ж з'явілася арганічная духоўная сувязь, якая, заўважна, развіваецца. Тры тыдні я быў у Маладзечна на міжнароднай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё беларускай нацыянальнай самасвядомасці». Як я разумею працэс яднання беларусаў, ён павінен уключаць у сябе разгляд такіх фундаментальных паняццяў, як нацыянальная самасвядомасць, нацыянальная спецыфіка, беларускі менталітэт. На канферэнцыі ўздымаліся пытанні, што такое беларускі менталітэт і нацыянальны характар. У яднанні беларусаў ёсць фактары этнічныя, культурныя. А сёння, як я разумею, дадаўся і фактар палітычны. Наогул лічылася, што беларускае адраджэнне павінна мець у сваёй аснове мову. Паводле Карскага, Багушэвіча, нашай традыцыі, — ты беларус, калі гаворыш на мове, а калі пакінуў яе — то памёр. Паводле такой меркі, сёння 80 працэнтаў беларусаў павінны быць мёртвымі. Я хаджу па вуліцах сталіцы беларускай дзяржавы, слухаю, як гавораць людзі, і нідзе я беларускай мовы не чую, акрамя некаторых асобных асяродкаў. Так што мерка такая сёння адпадае. Хаця мова, безумоўна ж, застаецца важнай, на яе аснове адбываецца адраджэнне, і тым не менш трэба зыходзіць з рэальных абставін. Сёння трэба казаць так: хоць ты і мову пакінуў, але ты не памёр. У цябе ёсць дзяржава, ёсць багатая гістарычная спадчына, ёсць традыцыі, ёсць зямля — вялікая геаграфічная прастора, ёсць геаграфічнае паняцце, якое трэба ўкараняць у свядомасць народа.

Мне здаецца, што сам працэс яднання беларусаў павінен ісці па палітычнай лініі. Не трэба зводзіць паняцце дзяржаўнасці да культуры і мовы, бо так будзем выстаўляць сябе на небяспеку югаславізацыі Беларусі. А мы павінны ад гэтага любой цаной ухіліцца, не дапусціць такога павароту падзей. І таму я думаю, што гэтая канцэпцыя дзяржавы, палітычная лаяльнасць рэспубліцы, — яе трэба было б замацоўваць, далучаць да акцэнту мовы і культуры акцэнт дзяржаўны. Я цяпер закончыў кніжку, над якой працаваў 11 месяцаў. Паколькі сітуацыя на тэрыторыі былога Саюза радыкальна змянілася, увесь свет хоча ведаць, што гэта за сітуацыя, што гэта за рэспублікі, што за дзяржавы. Таму практычныя амерыканцы вырашылі зрабіць серыю, дзе расказаць пра кожную рэспубліку.

Пішучы гэтую кніжку, я паставіў сабе пытанне: якая місія Беларусі ў свеце? Кожны ж народ мае нейкае сваё прызначэнне. Якое ж наша? Пытанне не з лёгкіх. Гледзячы на тое, што сёння адбываецца паміж Арменіяй і Азербайджанам, Малдовай і Прыднястроўем, Грузіяй і Абхазіяй, у Югаславіі, міжволі думаецца, што ёсць небяспека дубляжу сітуацыі ў Беларусі. Хаця, не дай Бог, канешне. Пры распрацоўцы канцэпцыі дзяржаўнасці Беларусі трэба базіравацца, можа, не столькі на культурных асновах, колькі на палітычных паняццях, на выпрацоўцы лаяльнасці да самой дзяржавы. І знайсці формулу, каб у гэтай дзяржаве ўсе этнічныя групы суіснавалі ў згодзе, мірна. Можа, гэта і будзе місія Беларусі — паказаць усяму чалавецтву на ўласным прыкладзе, як трэба ставіцца да людзей іншай мовы, іншай веры, іншай нацыянальнасці, іншых этнічных ці філасофскіх перакананняў. Талерантнасць, якая закладзена ў нас самой гісторыяй, можа прыдацца да выканання такой гуманнай місіі. Такім чынам паняцце этнічнага беларуса будзе заменена паняццем палітычнага беларуса, якое будзе ўключаць у сябе і этнічнасць, і культуру, і адначасова быць з пункту гледжання палітычнай культуры на вышэйшым узроўні. У сувязі з такім пераглядам пазіцый на канферэнцыі ў Маладзечна я нездарма загаварыў аб паняцці беларускасці. Што такое беларус у нашым уласным і ва ўяўленні іншых? Паводле Купалы: «Я-мужык беларус, пан сахі і касы...» Беларускасць чамусьці звязваецца толькі з мужыцкасцю, сялянскасцю. Прадстаўнікі ж іншых сацыяльных пластоў ніяк не ўключаюцца ў паняцце беларуса. Такую канцэпцыю абавязкова трэба пераглядаць, бо яна толькі шкодзіць нацыянальнай самасвядомасці, тым больш што абсалютна не адпавядае гістарычнай праўдзе. Мы дачакаліся свабоды інфармацыі, свабоды думання. Мусім перагледзець самую аснову нашага нацыянальнага існавання. І ў гэтым, вядома, мова, культура — адзін кампанент, але гэта не ўсё, і тады, калі мы ўключым у паняцце беларускасці і палітычны аспект, у нас, напэўна, будзе менш канфліктных сутычак з суседзямі — суграмадзянамі іншых моў, будзе выпрацоўвацца большая талерантнасць.

***

Другі мой сёлетні візіт у Беларусь выкліканы не толькі жаданнем пабываць яшчэ раз на Бацькаўшчыне. Я прыехаў як кансультант амерыканскай установы, дабрачыннага Фонду Сорэса. Такіх устаноў у Амерыцы шмат. Мэта візіту прадстаўнікоў фонду — дапамагчы каледжу Сахарава ў Мінску наладзіць міжнародныя сувязі, прыцягнуць у Беларусь экспертаў, запрасіць сюды выкладчыкаў. Таму што каледж рыхтуе спецыялістаў на выпадак — не дай Божа! — нейкай катастрофы. Небяспеку трэба прадбачыць. Бо вопыт Чарнобыля вельмі горкі і будзе мець яшчэ шмат аддаленых вынікаў. Дарэчы, каледж Сахарава падрыхтаваў невялікі сшытачак — падручнік для дзяцей 1-га класа «Як усведамляць пагрозу радыяцыйнай небяспекі?» Гэта ж такая патрэбная інфармацыя для нас і для нашых дзяцей! Хоць я і амерыканец, але пакідаю за сабой маральнае права гаварыць ад імя беларусаў. Я далучаюся да ўсіх вас і спадзяюся, што мы будзем разам будаваць новую Беларусь.

(Заканчэнне на 3-й стар.).




# МАЛЫ ЮБІЛЕЙ ВЯЛІКАЙ РЫНАЧНАЙ СТРУКТУРЫ



## БЕЛАГРАПРАМБІРЖА — гэта ваш крок у будучыню!




**Рэакцыя на нараджэнне год таму назад акцыянернага таварыства «Беларуская аграпрамысловая біржа» была неадназначнай — ад адабрэння да поўнага непрыняцця. Вядома, час — лепшы суддзя. З нагоды гадавіны таргоў мы папрасілі старшыню праўлення акцыянернага таварыства «Белаграпрамбіржа» Аляксандра ДЗЕХЦЯРА адказаць на нашы пытанні.**

## Пакуль біржу трымалі ў зале чакання — 500 мільёнаў вылецелі «ў трубу»

**— Аляксандр Пятровіч, прыміце віншаванні з нагоды юбілею і адразу адкажыце на галоўнае пытанне: што дала сялянству Рэспублікі Беларусь ваша біржа?**

— Адрасую вашы віншаванні заснавальнікам і членам біржы, якіх на сённяшні дзень больш за 550. Ад іх імя дзякуй вам за віншаванні, а таксама за супрацоўніцтва з нашай біржай. Са свайго боку прыміце самыя шчырыя віншаванні з 75-годдзем заснавання газеты «Звязда» і пажаданне калектыву рэдакцыі поспехаў у працы і жыцці. На пытанне адкажу так: нараджэнне нашай біржы было прадыктавана самім сялянскім жыццём, якое накіравалася ў бок цывілізаванага рынку. Год назад 80 лепшых калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу Рэспублікі Беларусь сабраліся разам і вырашылі стварыць дагэтуль невядомую арганізацыю — біржу.

Сёння наша біржа — гэта адзінае месца ў Рэспубліцы Беларусь, дзе пасля выканання харчразвёрсткі (спадзяюся, жыццё прымусіць у наступным годзе замяніць яе на харчпадатак) калгасы, фермеры, прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу могуць прадаць па рынавых цэнах лішкі сваёй прадукцыі і набыць неабходныя тавары. За год існавання на таргах, якія праводзяцца штотыднёва, заключана некалькі тысяч дагавораў на куплю тавараў на агульную суму больш за 900 млн. рублёў, сярод якіх збожжа, сельгасмашыны і будаўнічыя матэрыялы, шэраг іншых тавараў (звыш 2000 назваў). Мы маем сувязь з 70 біржамі краін СНД, у тым ліку з прадпрымальнікамі Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы і г. д. Супрацоўнікі біржы (а іх усяго 15 чалавек) строга захоўваюць камерцыйную тайну кліента, ветліва і кампетэнтна дапамагаюць членам біржы. У нас аказваюцца транспартныя паслугі, праводзіцца пры неабходнасці сертыфікацыя тавараў, страхаванне грузаў, здзелак, крэдытаў. Нарэшце, членам нашай біржы на льготных умовах можа стаць любы калгас, саўгас, фермер, прадпрыемства аграпрамысловага комплексу. Калгасы, якія, належным чынам выкарыстоўваючы магчымасці біржы, зарабілі вялікія грошы — гэта наша лепшая рэклама. Біржа пастаянна ўзмацняецца за кошт новых членаў. Колькасць іх за год нашага існавання перавысіла палову тысячы. Такую колькасць удзельнікаў у СНД мае толькі Маскоўская таварная біржа.

**— Якая структура тавараў, рэалізаваных на біржы?**

— Збожжа, бульба, прадукты харчавання, сельгасмашыны, мяса, прадукцыя садоўніцтва і агародніцтва, кармавыя, тэхнічныя культуры і лекавая сыравіна разам займаюць 52 працэнты ад усяго аб'ёму здзелак. Тавары хімічнай і нафтахімічнай вытворчасці, гаспадарчыя тавары — 27 працэнтаў, будаўнічыя матэрыялы, легкавыя і грузавыя аўтамабілі, іншыя тавары — 21 працэнт. Такім чынам, здзелкі па сельгаспрадукцыі і тэхніцы займаюць вядучае месца. Гэта дапамагае падтрымліваць рэальны парытэт цэн паміж прадукцыяй аграпрамысловага комплексу і прадукцыяй прамысловасці. Дарэчы, ліквіднасць тавараў (адносіны рэалізаваных да ўсіх прапанаваных на продаж) застаецца даволі значнай: 1,4 працэнта за паўгоддзе бягучага года.

**— Ці спрыяе дзейнасць біржы прытоку тавараў у рэспубліку?**

— Вядома. Колькасць тавараў, прапанаваных для продажу з-за межаў рэспублікі, даволі значная — каля мільярда рублёў. У асноўным гэта вострадэфіцытныя для нашай эканомікі металы і вырабы з іх, полістырол, поліэтылен, бавоўна, воўна, нафтапрадукты, лес, папера і г. д. Цэны на многія з іх прымальныя. Складанасць — у грашовых разліках. Здараецца, што грошы з Мінска да Масквы ідуць амаль месяц, а з Масквы яшчэ даўжэй.

**— Што перашкаджала станаўленню біржы?**

— Перашкод было многа. Адна з іх — псіхалагічныя адносіны да біржы як да нечага невядомага, «чужога». З-за гэтага некаторыя з заснавальнікаў біржы і па сённяшні дзень не выкарыстоўваюць яе вялікіх магчымасцей. Сярод іншых — шалёнае супраціўленне чыноўнікаў камандна-адміністрацыйнай сістэмы. Тых чыноўнікаў, якія трымалі сялянства ў вожыкавых рукавіцах, гадамі дзялілі і перадзельвалі фонды на прадукты харчавання і тэхніку. Якія дзялілі нават «фонды» на людзей (спецыялістаў) і галоўным лозунгам якіх было: застацца, «не давать и не пущать». Яны нам у вочы казалі: «Вас вешать надо!» На жаль, прыклалі руку да гэтага і сродкі масавай інфармацыі. З падачы чыноўнікаў яны малявалі біржы не ў лепшым свеце, абвінавачваючы іх у росце цэн. На самай справе ўсё наадварот. Біржы — гэта люстэрка эканомікі. У павышэнні цэн вінавата палітыка таталітарнай сістэмы, палітыка бязмернай мілітарызацыі і паразітычнага праядання велізарных сыравінных рэсурсаў усіх рэспублік былога Саюза, у тым ліку і рэсурсаў Беларусі.

**— Я ведаю, што па адукацыі вы аграном, а таксама эканаміст-міжнароднік. Які ваш асабісты прагноз у адносінах да цэн і вытворчасці на бліжэйшы год?**

— Паспрабую прадказаць будучыню. Няма чаго цешыць сябе надзеяй на хуткае паляпшэнне. Гэта можа быць гадоў праз пяць. Цэны на сыравіну будуць хутка расці і дасягнуць сусветнага ўзроўню. Вядома, што гэта прывядзе да чарговага вітка цэн. Той, хто мае якія-небудзь грошы, павінен не хаваць іх, а ўкладваць у справу ці купляць неабходныя рэчы. Грошы абясцэньваюцца не па днях, а па гадзінах.

Што датычыць вытворчасці — тут многае залежыць ад урада і Вярхоўнага Савета. Калі не прыняць ужо зараз мер па яе абароне, то наперадзе будуць цяжкія часы. Сёння прамысловасць трымаецца на «нажніцах» цэн: цэны на сыравіну ніжэйшыя за сусветны ўзровень, а цэны на гатовыя вырабы — амаль дасягнулі яго. Вытворцам ужо сёння трэба думаць, што рабіць, калі сыравіна стане даражэй. Зрэшты, гэта асобная вялікая тэма.

**— Якія адносіны ў вас з Вярхоўным Саветам, урадам?**

— На жаль, дрэнныя. Колькі мы ні спрабуем даказаць, што і Вярхоўны Савет, і Савет Міністраў павінны выкарыстоўваць магчымасці біржы — гэта не ўдаецца. Складваецца ўражанне, што многія «наверсе» не разумеюць, што рыначная эканоміка — не планавая, што галоўнае сёння — пашыраць рынак збыту па ўсіх напрамках, у тым ліку і праз біржу. У якасці прыкладу прывяду наступнае. Сельскай гаспадарцы Беларусі нанесены страшэнны ўрон — 500 млн. рублёў страт з-за таго, што сяляне не могуць збыць ялавічыну. З-за гэтай прычыны зніжаецца яе вытворчасць. Тое, над чым дзесяткамі гадоў працавалі сяляне, «ляціць у трубу». Вінаватыя ў гэтым не старшыні калгасаў, не калгаснікі, не біржы, не брокеры — вінаваты ўзровень дзяржаўнага кіравання эканомікай. Сёння наш урад забараняе экспарт мяса ў іншыя краіны СНД, у тую ж Расію. Як вынік, з-за нізкага эканамічнага ўзроўню кіраўніцтва наша сельская гаспадарка дадаткова да ўсіх бед губляе традыцыйныя рынкі збыту.

А ўзяць падатковую палітыку. Наша біржа, якую стварылі калгасы і саўгасы, абкладзена падаткам у 60 працэнтаў ад даходу (гэта 95—100 працэнтаў прыбытку). Такога цуда ў свеце няма! У Літве і Латвіі біржы не маюць падаткаў зусім. У Эстоніі — 25 працэнтаў ад прыбытку. Літоўцы, латышы і эстонцы на этапе станаўлення сваіх біржаў хочуць даць ім магчымасць стаць моцнымі, пабудавацца, дасягнуць сусветнага ўзроўню.

У нашых жа ўлад, на мой погляд, няма нацыянальнай годнасці і гонару. Яны гатовы задушыць біржу, замест таго каб выкарыстоўваць яе для патрэб эканомікі. Нашы доказы адскокваюць ад іх, бы гарох ад сцяны. Гэта крыўдна, балюча і не прыбаўляе аўтарытэту ўладам сярод членаў біржы.

**— Якія захады вы прымалі, каб выправіць становішча?**

— Мы пабывалі ў Екацярынбургу, наведалі кіраўніцтва гэтага горада, расказалі пра магчымасці нашай біржы (гэта было яшчэ ў сакавіку). Уральцы былі вельмі зацікаўлены ў закупках мяса і мясапрадуктаў і былі гатовыя паставіць беларусам свае вырабы — металы, электратавары і г. д. Але ў нас і па сённяшні дзень дзейнічаюць пастановы па абароне спажывецкага рынку, якія забараняюць вываз прадукцыі за межы рэспублікі тым, хто яе вырабляе. Тыя ж, хто сядзіць у міністэрствах і ведамствах, могуць усё. Самі сабе ліцэнзію выпісалі і вывезлі. Аднак цяпер і ў іх не хочуць купляць. Тупік.

Былі члены біржавога савета на прыёме ў Доме ўрада. Дзве гадзіны праседзелі ў прыёмнай, потым яшчэ дзве гадзіны нас дапытвалі, як ды што, а вынік — нуль. Некалькі разоў звярталіся асабіста да старшыні ўрада і яго намесніка з прапановамі дапамагчы рэалізаваць прадукцыю. Не атрымалася.

**— Чаму вы часта звярталіся да членаў урада і якія, на ваш погляд, павінны быць узаемаадносіны паміж урадам і камерцыйнай структурай?**

— Звярталіся таму, што стан спраў на нашай сялянскай біржы залежыць ад стану спраў увогуле ў сельскай гаспадарцы. Мы спадзяваліся, што ва ўрадзе дзяржаўныя людзі, якія «хварэюць» за народ. На жаль, надзеі пакуль не спраўдзіліся. Адносіны ж павінны быць нармальнымі, асабліва з такімі арганізацыямі, як наша, бо яна спрыяе збыту прадукцыі, росту вытворчасці, а значыць, павышэнню дабрабыту беларускага народа.

**— Аляксандр Пятровіч, чаму так многа біржаў на Беларусі ліквідавалася і што чакае вашу біржу ў будучым?**

— Ліквідацыя больш дробных біржаў — гэта вынік падатковай палітыкі. Я ўжо гаварыў, што на біржавую і брокерскую дзейнасць нашы заканатворцы накладаюць самыя вялікія падаткі ў параўнанні з іншымі краінамі СНД. Наша біржа жыве дзякуючы таму, што больш за 350 яе членаў — вытворцы: калгасы, саўгасы і фермеры, на якіх драпежніцкае заканадаўства не распаўсюджваецца (яны прадаюць **сваю** прадукцыю). А камерцыйныя ж структуры, каб пазбегнуць стопрацэнтнага падаткаабкладання, пайшлі з біржаў або перарэгістраваліся ў рэспубліках Балтыі ці ў Расіі. І тыя біржы, дзе было больш камерцыйных структур, пераўтварыліся ў іншыя арганізацыі, якія плацяць менш падаткаў. Нам перашкадзіла ў гандлёвы дом не дазваляе гонар хлебаробаў-уладальнікаў біржы. Беларуская аграпрамысловая біржа — адзіная ў рэспубліцы і павінна існаваць як біржа.

**— Як вы ставіцеся да перашкод у гандлі, звязаных з распадам СССР і ўзнікненнем самастойных дзяржаў?**

— Як грамадзянін Рэспублікі Беларусь я ганаруся тым, што яна самастойная. Мы, беларусы, павінны адрадзіць і сваю мову, і сваю гісторыю, і сваю культуру. Павінны як роўныя быць у міжнародным супольніцтве, прызнаючы чалавечую годнасць, уласнасць і правы ўсіх людзей найвялікшымі каштоўнасцямі. Як прадстаўнік камерцыйнай структуры я сведчу, што наша эканоміка тысячамі ніцяў звязана з эканомікай іншых дзяржаў, і гэтыя ніці не павінны рвацца. Сёння мы павінны зразумець: скончыўся час, калі эканоміка існавала за кошт увозу тавараў з іншых рэгіёнаў. Тая дзяржава багацейшая і мацнейшая, якая можа прадаць больш гатовай прадукцыі, гатовых вырабаў за мяжу. Я ўпэўнены — трэба распрацаваць канцэпцыю эканамічнай экспансіі ў добрым сэнсе гэтага слова па прыкладу Паўднёвай Карэі. Не хаваць нашы прадукты і тавары, а прадаваць іх і купляць неабходную нам сыравіну, тым больш што заўтра яна будзе каштаваць яшчэ даражэй.

**— Апошняе пытанне: як вы ставіцеся да газеты «Звязда»?**

— Я пастаянны падпісчык вашай газеты. Яна становіцца ўсё больш цікавай. Хутка яна стане больш цікавай і папулярнай, чым, скажам, «Аргументы і факты». Але часам і «Звязда» ўводзіць людзей у зман. Напрыклад, прайшла плётка аб тым, што самай шматлікай з грамадска-палітычных арганізацый — 10 тысяч чалавек — з'яўляецца партыя камуністаў Беларусі. Я хацеў бы карэктна ўдакладніць: самая шматлікая арганізацыя — Саюз аграрнікаў Беларусі — больш за 300 тысяч чалавек.

Жадаю ўдачы ўсім вашым чытачам, спадзяюся, што кожны член Саюза аграрнікаў таксама выпіша «Звязду». Тым, хто цікавіцца дзейнасцю біржы, з задавальненнем адкажу па тэлефоне 77-01-37 на ўсе пытанні, або асабіста, калі яны наведаюць нас па адрасу: г. Мінск, вул. Казінца, 86, корпус 2, пакой 114.



## Міні-дыялог у зале таргоў

### ЗДЗЕЛАК НА СУМУ НІЖЭЙ 300.000 У МЯНЕ НЕ БЫВАЕ

**Так заявіў пры сустрэчы на «Белаграпрамбіржы» дырэктар ПКФ «Эліта» Анатоль Іосіфавіч Сташэўскі падчас кароткага інтэрв'ю. Галоўнае, што вынес я пасля сустрэчы з ім, — гэта вера ў тое, што рынкавыя адносіны ў вёсцы развіваюцца больш цывілізавана, чым у горадзе, аднак і там лічаць, што падатак у 60 працэнтаў на пасрэдніцтва — гэта лухта.**

— Як жа так, Анатоль Іосіфавіч? Падатак карае несумленных перакупшчыкаў. Ці ж гэта дрэнна?

— Глупства. Несусветнае глупства. Як быццам ад таго, што забаранялі ўвогуле варыць самагон, яго менш варылі. Вялікія пасрэдніцкія структуры з біржаў пераўтварыліся ў гандлёвыя дамы і нядрэнна жывуць. Пасрэдніцтва працягваецца, яно ёсць і яно патрэбна. Ад дурнога падатку пацярпелі нявопытны брокер ды дзяржава, якая атрымала кукіш з маслам.

Зрэшты, мой субяседнік быў не супраць падаткаў, аднак супраць таго, што за кошт іх нядрэнна існуюць дзяржаўныя служачыя, розныя гультаі і ўвогуле, што падаткі, прама скажам, прапіваюцца.

— Ну, гэта вы хапілі лішку, Анатоль Іосіфавіч. У нас дзяржаўныя служачыя жывуць сціпла, спіртное не ўжываюць, і кожны ведае, куды пайшлі яго падаткі.

— Не ведаю, як у вас, а ў мяне за першае паўгоддзе чатырыста тысяч ляснулі. Аддаў падаткамі, а каму і за што — не ведаю. Як і пры сацыялізме, кажуць, што пайшлі на карысць народу. Дай Божа.

— Чым у асноўным гандлюе ваша фірма?

— Элітнае насенне бульбы. Прадаём кіло па 16 рублёў. Бяруць. Хаця зазначу, што многія старшыні калгасаў (а іх у гэтай зале шмат) не надаюць належнай увагі насенню. Іх асноўны козыр у барацьбе за ўраджай — нітраты і пестыцыды.

— Асабіста што маеце ў кішэню?

— Атрымліваю аклад, хаця са сваімі сувязямі даўно мог бы быць мільянерам. У нас — беларусаў — свае адносіны да грошай. Мы прывыклі, што ў нас у кішэні — пуста, і калі там штосьці з'яўляецца, мы самім гэтым фактам вельмі задаволеныя. Я ўпэўнены — у нас капіталізм ніколі не будзе такім бесчалавечным і варварскім, як у Амерыцы. Мы — нацыя, якая шмат ужо адпакутавала. Увогуле наша фірма атрымлівае 3—5 працэнтаў ад сумы здзелкі... Прабачце, здаецца, у зале ёсць цікавасць да прапаноў нашай брокерскай канторы нумар 550...

Сапраўды, пасля невялікіх удакладненняў пакупнік аб'явіў аб куплі элітнага насення бульбы гатункаў «Рамана» і «Арбіта» агульнай колькасцю сорак пяць тон. Брокерская кантора, якую прадстаўляў Анатоль Іосіфавіч, аўтаматычна атрымала 36 тысяч даходу. Трыццаць шэсць мінус шэсцьдзесят працэнтаў дзяржаве — агульны вынік 14.400 рублёў. (Асабіста брокеру — нічога, бо ён «на акладзе».)

— Віншую.

— Дзякую. Прывітанне чытачам «Звязды».

Мой субяседнік папрасіў прабачэння і зноў паглыбіўся ў біржавы спектакль. Пералік прапаноў працягваўся...

## Сябры, годзе сумаваць — ідзіце грошы зарабляць,

### КЛІЧА МІЛЬЯНЕР СТАРШЫНЬ КАЛГАСАЎ

Наш час — час утрыманцаў і мільянераў. Дзяржаўным прадпрыемствам спісваюць запазычанасці (відаць, каб працавалі яшчэ горш), а прыватны і калектыўны бізнес душаць падаткамі. Як ні дзіўна, але апошнія прадаўжаюць жыць. Больш таго, з'яўляюцца новыя мільянеры. З адным з іх я сустрэўся пад час таргоў. Скажу адразу — звычайны чалавек, гэты наш мільянер. І апрануты звычайна, і выгляд мае не такі ўжо і важны, і працуе звычайным старшынёй калгаса. Зрэшты, ці так ужо і важна, што ён робіць, калі не ўдзельнічае ў таргах? Галоўнае, што чалавек можа самастойна зарабляць грошы. Нават па замежных мерках 10 мільёнаў рублёў — нямала, а Васіль Васільевіч Антоненка зарабіў іх гандлем усяго за дзевяць месяцаў. Канешне ж, добрую дапамогу яму аказала ў гэтым і сама гаспадарка. Калгас імя Заслонава мае палеткі на беразе Дняпра на Быхаўшчыне. Зямля хаця і не вельмі добрая, але сёе-тое родзіць, ёсць што пасля выканання дзяржзаказу прадаць.

— Магу толькі здзіўляцца, — кажа Васіль Васільевіч, — чаму яшчэ не ўсе калгасы імкнуцца да цывілізаванага гандлю? Біржа для мяне — гэта компас у моры цэн і попыту. Яна дае магчымасць вырашаць пытанні забеспячэння гаспадаркі тэхнікай, запчасткамі, ды і тое, што вырасла, можна выгадна прадаць. Вельмі цяжка стала вырашаць у вёсцы сацыяльныя пытанні. Сёння толькі біржа дазваляе набыць без лішняга клопату тэлевізары і аўтамабілі, гарэлку і гарбату. Заказалі курцы тытунь — купіў для сельскай крамы партыю «Астры» па 17 рублёў за пачку. Тыя ж памідоры, кавуны, іншую гародніну і садавіну, якую калісьці завозілі да нас суседнія рэспублікі, зараз калгас можа набыць выключна праз біржу.

Між тым, мільянера хвалюе не толькі тое, што ёсць, але больш патэнцыяльны прыбытак. Ён жа бы міраж у пустыні: то з'явіцца, то зноў знікне. Старшыня калгаса — ён жа ў вышэйшым сэнсе прадпрымальнік — не можа ўцяміць, чаму наўмысна хочуць утварыць голад у рэспубліцы надыходзячай зімой. Як вядома, у гарадах крамы пустыя, мясакамбінаты жывёлу не прымаюць, а селянін у гэты галодны год і карміць яе няма чым, і здаць няма куды.

— Я разумею дзяржзаказ як аснову забеспячэння рэспублікі прадуктамі харчавання. Выканаў — лішкі прадавай. Факт, калі ў нас ёсць лішкі мяса і мы не можам яго прадаць за мяжу — проста злачынна. Капіталісты кормяць Расію, каб даць магчымасць пашырыць вытворчасць прадуктаў, а мы арганізацыйнымі метадамі зніжаем пагалоўе статка. Нафта падаражэла ў два разы. У колькі падаражэе вытворчасць мяса ў бліжэйшы час — сказаць цяжка, бо закупачная цана 50 рублёў за кілаграм — не стымулюе вытворцаў. Ёсць не намі выдуманы закон: на тое, каб атрымаць кілаграм мяса, ідзе дзесяць кілаграмаў збожжа. Гэта значыць, што пры закупачнай цане на збожжа ў 10 рублёў закупачная цана кілаграма мяса павінна складаць сто рублёў! Сёння адсутнасць усякай палітыкі ў сельскай гаспадарцы вядзе да банкруцтва цэлай галіны — жывёлагадоўлі.

Мільянер мае рацыю. Ужо трыццаць таргоў запар на біржы не купляецца мяса. Скарачаецца статак і на ўласным падвор'і, і калі лічыць біржу барометрам адносін кіраўніцтва да сельскай гаспадаркі, то тут яўна наспявае канфлікт. Зрэшты, ніхто іншы, як ён — сучасны прадпрымальнік — адчувае і абсурднасць падаткаў, і трагічнасць сітуацыі. Адчувае не таму, што абставіны не дазваляюць сарваць большы куш. Не трэба забываць, што нацыянальны прадпрымальнік, як правіла, — патрыёт. Яго душа баліць за роскві Бацькаўшчыны не менш, чым у іншых. Грамадская думка не без дапамогі прэсы імкнецца загнаць яго ў кут, стаміць, а ён зноў выходзіць адтуль і зноў вядзе справу. Зрэшты, што выйграла б грамадства, калі б прымусіла Васіля Антоненку займацца не гандлем на біржы, а, скажам, жывёлагадоўляй? Калгас меў бы добрага пастуха ці жывёлавода, але не меў бы тых мільёнаў, якія мае зараз. Зазначу, што Васіль Васільевіч мог бы з тымі абавязкамі справіцца бліскуча. І не таму, што мае вышэйшую адукацыю, а таму, што мае жывёлу на ўласным падвор'і, добра косіць і не лічыць за загану, як і ўсе калгаснікі, прапалоць з сям'ёй загон буракоў. Гэтак жа ўпэўнена, як на зямлі, трымае ён сябе і ў зале «Белаграпрамбіржы». Добрае веданне справы — добры вынік. Невялікі дыялог прадаўца і пакупніка — і тры тысячы тон збожжа ўсяго па тры(!) рублі за кілаграм адпраўляюцца ў родны калгас.

— Мы дзяржзаказ выканалі. Маем і невялікія лішкі. Але чаму не купіць, калі прадаюць, — усміхаецца ён пасля здзелкі. А потым зноў пераключаецца на праблемы. Я заўважаю, што галоўная з іх — як накарміць народ. Васіль Васільевіч лічыць, што час увагі да сяла, аб якім шмат любілі трубіць пры сацыялізме, не наступіў, не стала лепей зараз і наўрад ці стане. Выхад адзін — працаваць, выкарыстоўваючы ўсе формы гаспадарання.

— Біржа дапамагае вырашаць многія пытанні нашай гаспадаркі, спрыяе павышэнню прадукцыйнасці працы, а значыць, спрыяе насычэнню прылаўкаў прадуктамі харчавання, — заключае ён. Цяжка з гэтым не пагадзіцца.

**Матэрыялы падрыхтаваў Віктар ХУРСІК.**

